


#6






АСТРАНДЭР
ДУУРСІМА
ПАРСАНС

# STAR WARS

## СВІТАНАК ДЖЭДАЯЎ: ВЯЗЕНЬ БОГАНА

ПАЛЯВАННЕ НА ДЖЭ'ДАЙІ ПАЧЫНАЕЦЦА!




ЗОРНЫЯ ВОЙНЫ:
СВІТАНАК ДЖЭДАЯЎ #6
ВЯЗЕНЬ БОГАНА
ПЕРАКЛАД: COMICSBY

ПЛАНЕТА БІС, БАЗА БЯСКОНЦАЙ ІМПЕРЫІ РАКАТ У ГЛЫБОКІМ ЯДРЫ.

ТУТ, НА БЕРАЗЕ БЛАД'НАНСКАГА МОРА, РАЗМЕШЧАНЫ КАМАНДНЫ ЦЭНТР ПРЭДАРА СКЕЛ'НАСА – СІМБАЛЬ ЯГО МАГУТНАСЦІ.


















ДАЗВОЛЬЦЕ МНЕ ЎЗЯЦЬ ВЫВЕДЫВАЦЕЛЬСКІ КАРАБЕЛЬ, МОЙ ПРЭДАР!

Я АДШУКАЮ «ПАЖЫРАЛЬНІК!, ВЫВЕДАЮЧЫ ЗЭША! СВЕТ, ЯКІ ВЫ ШУКАЕЦЕ, ПАВІНЕН БЫЦЬ ТАМ, ДЗЕ ЁН!






У ПАДАННЯХ ДЖЭДАЙЯЎ ЗАСКАЗВАЕЦЦА, ШТО ДВА МЕСЯЦЫ – СВЕТЛАЯ АШЛА І ЦЁМНЫ БОГАН – НАРАДЗІЛІСЯ З ВОГНЕННАГА ЎЛОННЯ ТАЙТОНА, КАБ СЛУЖЫЦЬ НАПАМІНКАМ ТЫМ, ХТО ШУКАЕ РАЎНАВАГУ Ў АДВЕЧНАЙ БАРАЦЬБЕ МІЖ СВЕТАМ І ЦЕМРАЙ.

ШМАТ ТЫСЯЧ ГАДОЎ РАНЕЙ СПАДАРОЖНІКІ БЫЛІ КАЛАНІЗІРАВАНЫЯ ТЫМІ, ХТО НЕ ВАЛОДАЎ СІЛАЙ І БЫЎ ВЫМУШАНЫ ПАКІНУЦЬ ТАЙТОН.

З ГЭТЫХ МЕСЯЦАЎ ДЗЕЦІ ТАЙТОНА ПАЧАЛІ НЯСЯЛЯЦЬ АСТАТНІ СВЕТ. РУІНЫ КАМЕННЫХ ГАРАДОЎ, ЯКІЯ ЯНЫ ПАКІНУЛІ, ЗАРАЗ СЛУЖАЦЬ ПРЫТУЛКАМ ДЛЯ ВЫГНАНЫХ ДЖЭДАЙІ.

ЗЭШ РАЗВАЖАЕ ПРА НАЧНОЕ НЕБА, УГЛЯДАЮЧЫСЯ НА ТОЕ, ЯК ЦЕНЬ БОГАНА ЗНОЎ З'ЯДАЕ БЛІСКУЧУЮ АШЛУ. ЦЕМРА ЗАЎСЁДЫ ПАГЛЫНАЕ СВЯТЛО.

ДЖЭДАІ КАЖУЦЬ, ШТО СВЯТЛО ЎРАЎНАВАЖВАЕ ЦЕМРУ. СВЕТЛЫ БОК, ПРА ЯКІ ЯНЫ РАСКАЗВАЮЦЬ, ЧУЖЫ ЗЭШУ. ЁН РАКАТСКІ РАБ І ВЕДАЕ ТОЛЬКІ ТОЕ, ШТО ДЖЭДАІ КЛІЧУЦЬ ЦЁМНЫМ БОКАМ.

УСПАМІНЫ З МІНУЎШЧЫНЫ НЯСПЫННА МІЛЬГАЦЯЦЬ ПЕРАД ІМ, ПРЫХОДЗЯЦЬ ЗМРОЧНЫМІ МІМАЛЁТНЫМІ ПРОБЛІСКАМІ.

УСПАМІН З ДЗЯЦІНСТВА: ЯГО КОДЛА – ЯНЫ З ТАВАРЫШАМІ ЦІСНУЦЦА АДЗІН ДА АДНАГО, КАБ САГРЭЦЦА. ІМЁНЫ І ТВАРЫ ВЫСЛІЗГВАЮЦЬ, АЛЕ ЯНА ЗАЎСЁДЫ БЫЛА КАЛЯ – ЛЮТАЯ АБАРОНЦА, ЯКАЯ ЗДЫМАЛА БОЛЬ...

КАЛІ ЯГО РАЗЛУЧЫЛІ З КОДЛАЙ, ЗЭША ЗМЯСЦІЛІ Ў МАШЫНЫ ГАСПАДАРОЎ, БЫЦЦАМ ПАХАВАЛІ ЖЫЎЦОМ. ЗЭШ ЛЯМАНТАВАЎ АД СТРАХУ, АДЧУВАЮЧЫ ЗНЕДАЛЁК СВАІХ СЯБРОЎ, І ЧУЎ ІХ КРЫКІ Ў ЦЕМРЫ.
ЁН СПАЗНАЎ ГНЕЎ І НЯНАВІСЦЬ.
ПАЗНЕЙ ЁН ЗРАЗУМЕЎ, ШТО ХАЛОДНЫ ГНЕЎ І ЦЁМНАЯ НАНАВІСЦЬ – ГЭТА СІЛА, ТАЯ САМАЯ ЭНЭРГІЯ, ШТО СІЛКУЕ КАРАБЛІ ГАСПАДАРОЎ.
АДЗІН З ТАКІХ ГАСПАДАРОЎ – ТУЛ'КАР – ЗАЎВАЖЫЎ У ХЛОПЦА ТАЛЕНТ, ЗВОЛЬНІЎ ЯГО АД МАШЫН І ПАЧАЎ НАВУЧАЦЬ РАМЯСТВУ ШНЫПАРА. З ТЫХ ЧАСОЎ ЗЭШ БЫЎ АДЗІН.
ЗЭШ СТАЎ ЛЕПШЫМ У СВАЁЙ СПРАВЕ. АДЗІНОЦТВА СТАЛА ДЛЯ ЯГО ЛАДАМ ЖЫЦЦА. ЁН ПАМЯТАЕ МАГУТНАСЦЬ.
УСЁ ГЭТА БЫЛО Ў МІНУЛЫМ, КАЛІ ЁН БЫЎ РАБОМ РАКАТ. ДВА МЕСЯЦЫ РАНЕЙ УСЁ ЗМЯНІЛАСЯ.

СКРОЗЬ БУРНЫЯ ПЛЫНІ ГЛЫБОКАГА ЯДРА ЗЭШ АДЧУЎ ТАЙТОН. ЁН ПАВІНЕН БЫЎ ПРЫВЕСЦЬ СЮДЫ РАКАТ ДЛЯ ЖНІВА. АЛЕ НЕШТА АДБЫЛОСЯ.

«ПАЖЫРАЛЬНІК», КАРАБЕЛЬ РАКАТ, ВЫБУХНУЎ У НЕБЕ НАД ТАЙТОНАМ. І ПАКУЛЬ ЁН РАЗВАЛЬВАЎСЯ НА КАВАЛКІ, ЗЭШ ЗАБІЎ СВАЙГО ГАСПАДАРА І ЎЛЯЦЕЎ У ЯГО РАТАВАЛЬНАЙ КАПСУЛЕ.

НА ТАЙТОНЕ ЁН СУСТРЭЎ ПЕРШЫХ ДЖЭДАЙІ – ТРОХ ВАНДРОЎНІКАЎ. СПАЧАТКУ ЁН СПРАБАВАЎ ІХ ЗАБІЦЬ, АЛЕ ПОТЫМ РАТАВАЎ.

З–ЗА ЯЕ. У ЦЕМРЫ БЕЗДАНІ РУ ЯНА ПАЛАЛА СВЯТЛОМ. ГЭТА БЫЛО ЗА МЕЖАМІ РАЗУМЕННЯ ШНЫПАРА. ЧАСТКА ЯГО ДУШЫ ІМКНУЛАСЯ ДА ЯЕ. ЗЭШ НЕ МОГ ДАЗВОЛІЦЬ ЁЙ ПАМЕРЦІ.

ЧАМУ? ЯНА БЫЛА ВОРАГАМ. СМЕРЦЬ – ЗВЫЧАЙНАЕ СПРАВА. ЗЭШ НЕ РАЗУМЕЎ, ШТО ЗА ПАЧУЦЦЁ ПРЫМУСІЛА ЯГО РАТАВАЦЬ ЯЕ.

ГЭТЫЯ ПАЧУЦЦІ ЗРАБІЛІ ЯГО СЛАБЫМ. І ЯГО РАЗБІЛІ СІЛАЙ – РАЗБІЛІ ІНШЫЯ ДЖЭДАЙІ.

ЯНЫ ЎЗЯЛІ ЯГО Ў ПАЛОН І ВЫГНАЛІ НА ЦЁМНЫ МЕСЯЦ. НА БОГАН.


ЗАПІС: ВЫГНАННІК ЗЭШ У ЖЫЛЛІ. ДРУГІ МЕСЯЦ ЯГО ПРЫБЫЦЦЯ ПАДЫХОДЗІЦЬ ДА КАНЦА.


ЗАЎВАЖУ: КАРАБЕЛЬ З ХАРЧАМІ ПРЫБУДЗЕ НА НАСТУПНЫМ ТЫДНІ. ДАБРАНАЧ, ВЫГНАННІК ЗЭШ.


ДЖЭДАІ СКАЗАЛІ, ШТО СІЛА Ў ІМ НЕ ЎРАЎНАВАЖАНА. У ВЫГНАННІ НА БОГАНЕ ЁН ПАВІНЕН ЗНАЙСЦІ РАЎНАВАГУ МІЖ СВЯТЛОМ І ЦЕМРАЙ ШЛЯХАМ МЕДЫТАЦЫЙ І РАЗВАЖАННЯЎ.
АЛЕ ЗЭШ ЗРАЗУМЕЎ НАДАСКАЗАНАЕ. ЁН ТУТ ТАМУ, ШТО ДЖЭДАІ БАЯЦЦА ЯГО ЦЁМНАГА МАГУТНІЦТВА. ЁН ВЕДАЕ, ШТО ТАКОЕ БОГАН НА САМОЙ СПРАВЕ. ТУРМА.


КАРАБЕЛЬ З ХАРЧАМІ ПРЫБУДЗЕ НА НАСТУПНЫМ ТЫДНІ. КАРЫСНАЯ ІНФАРМАЦЫЯ. ЕЖЫ ХОПІЦЬ.


ЁН НЕ ГАЛАДАЕ. ДЖЭДАІ СІЛКУЦЬ СВАІХ ПАЛОННЫХ КУДЫ ЛЕПШ, ЧЫМ ЯГО БЫЛЫЯ ГАСПАДАРЫ.
ТУЛ'КАР МЁРТВЫ. ЗАСТАЎШЫСЯ БЕЗ ГАСПАДАРА, НА БІСЕ ЗЭШ БЫЎ БЫ ВЫМУШАНЫ ЗМАГАЦЦА НА АРЭНЕ З ІНШЫМ РАБОМ ЗА НОВАГА. АЛЕ ЁН ЕН НА БІСЕ.


КАЛІ ЁН БОЛЬШ НЕ РАБ, ТАДЫ ХТО?






РЭАЛЬНАСЦЬ СКАЖАЕЦЦА. НЕ ХАПАЕ,.. ПАВЕТРА!







ШТО ТЫ
СА МНОЙ...
ЗРАБІЎ?!


Я ЗАВУ ГЭТА «ДУРМАНАМ РОЗУМА». Я Ў ТВАЁЙ ГАЛАВЕ. БАЛЮЧА, ТАК?


KRESH!
РРРРРР!




ХОЧАШ ЗАБІЦЬ МЯНЕ? НАПЕРАД!
АЛЕ СПАЧАТКУ АДКАЖЫ НА АДНО ПЫТАННЕ, Я ПАВІНЕН ГЭТА ВЕДАЦЬ. НАВОШТА ТЫ ЯВІЎСЯ МНЕ ТУТ, НА БОГАНЕ?


ТЫ МЯНЕ БАЧЫЎ...
...ЯК І ТЫЯ ДЖЭДАІ.


МЯНЕ КЛІЧУЦЬ ДЭЙГЕН ЛОК. У ЦЯБЕ ЁСЦЬ ІМЯ? НЕ КЛІКАЦЬ ЖА ЦЯБЕ ЎВЕСЬ ЧАС «ХЛОПЧА».
ЗЭШ.
А, НУ КАНЕШНЕ. ТРЭБА БЫЛО ЗДАГАДАЦЦА. У ЦЯБЕ Ж НА ТВАРЫ НАПІСАНА. БАІШСЯ ЗАБЫЦЬ, ЯК ЦЯБЕ КЛІЧУЦЬ, ТАК?


ГЭТА ПАЗНАКА СІЛАВОГА ШНЫПАРА РАКАТ. ТАКІЯ Ж ЯНЫ СТАВЯЦЬ НА РУКАХ І НАГАХ – ТАК ПРАСЦЕЙ РАСПАЗНАЦЬ КАВАЛКІ, КАЛІ НЕ ПАШЧАСЛІВІЦЦА Ў БАІ.
ЯК ТЫ ТРАПІЎ У МАЁ ЖЫЛЛЁ? МНЕ СКАЗАЛІ, ШТО КАЙДАНЫ НА ДАЗВАЛЯ-ЮЦЬ ЗНЯВОЛЕННЫМ НАБЛІЖАЦЦА АДЗІН ДА АДНАГО... АЛЕ НА ЦЯБЕ ІХ НЯМА.


ТАК. ЯК І НА ЦЯБЕ. ВОСЬ. ЦЯПЕР ТЫ ВОЛЬНЫ.


ЗНАЙШОЎ СПОСАБ, ЯК ЗНЯЦЬ ПРЫ ДАПАМОЗЕ СІЛЫ, НЕ АДКЛЮЧАЮЧЫ ДАТЧЫКАЎ. ДРОІДЫ-ВАРТА-ВЫЯ ДУМАЮЦЬ, ШТО МЫ ТАМ, ДЗЕ БРАНЗАЛЕТЫ.
ЯНЫ НЕ ВЕЛЬМІ РАЗУМНЫЯ.


ВЫДАТНЫ ТРУК, АЛЕ МЫ ЎСЁ РОЎНА ВЯЗНІ. З МЕ-СЯЦА НЕ ЗБЕГЦІ.
ДРОІД-АХОЎ-НІК ЛІЧЫЦЬ, ШТО ТЫ СПІШ.
СЁННЯ НА НАШЫМ БАКУ ЦЁМНА, І МЫ НЕ АДКІДВАЕМ ЦЕНЯЎ. ІДЗЕМ СА МНОЙ, БРАТ.

ТАЙТОН. СТАЎ КЕШ, ХРАМ НА ГІГАНТСКАЙ ІЛЬДЗЯНОЙ ГРАДЗЕ. МЕСЦА, ДЗЕ ДЖЭДАІ НАВУЧАЮЦ-ЦА БАЯВЫМ МАСТАЦТВАМ. ТУТ МАГЧЫМА ПРЫВЕСЦІ ЦЕЛА І РОЗУМ У РАЎНАВАГУ.

ХІЙЯААА!

МАЙСТАР ТЭЙВ НАВУЧАЕ ТРОХ ВАНДРОЎНІКАЎ – ШЭЙ КОДУ, ТАШУ РО І СЕК'НОСА РАТА. НАГАДВАЕ ІМ СТАРЫЯ ЎРОКІ, ДАПАМАГАЕ ЎЗНАВІЦЬ МАЙСТЭРСТВА.

ЗМАГАЙЦЕСЯ ЗА СВАЁ ЖЫЦЦЁ! ЗМАГАЙЦЕСЯ ЗА ЖЫЦЦЁ ВОРАГА! ТАКІЯ ПРЫНЦЫПЫ ДЖЭДАЙ!

ВЫКАРЫСТОЎВАЙЦЕ СІЛУ! АДЧУЙЦЕ СУПЕРНІКА, АДГАДАЙЦЕ ЯГО НАСТУПНЫ КРОК! А ПОТЫМ – УДАР!

УДАР!

УДАР!






ПФ. ВЫ МОЖАЦЕ ЗМАГАЦЦА ЛЕПШ. ВАШЫЯ ВЫБРЫКІ БЫЛІ ПРАДКАЗАЛЬНЫЯ. ДУМАМІ ВЫ ДЗЕСЬЦІ ДАЛЁКА – СЯРОД ВАШЫХ ПАЧУЦЦЯЎ ПЕРАВАЖАЮЦЬ СУМНЕЎ І ГНЕЎ.

А... ВЫ ЎСЁ ЯШЧЭ ДУМАЕЦЕ ПРА ТОГА, КАГО АДПРАВІЛІ НА БОГАН.

МЫ БАЧЫЛІ ЗЭША ЯШЧЭ ДА ТАГО, ЯК ЯГО КАРАБЕЛЬ ЗВАЛІЎСЯ, МАЙСТАР ТЭЙВ! ГЭТА БЫЛА САПРАЎДНАЯ ВЫЯВА СІЛЫ! І МНЕ ЗДАЕЦЦА, ШТО ЯГО ТРЭБА БЫЛО ПАКІНУЦЬ НА ТАЙТОНЕ!

ЧАМУ МАЙСТРЫ НЕ ЎСПРЫМАЮЦЬ НАС СУР'ЁЗНА?



ВЫ ЗАНАДТА ЮНЫЯ, КАБ ПАМЯТАЦЬ ГЭТА. МАЙСТРЫ ХРАМАЎ ПАДАЗРАЮЦЬ УСІХ НЕ ПРОСТА ТАК. «БАЧАННЕ» ДЭЙГЕНА ЛОКА ПАЗБАВІЛА ЯГО РОЗУМУ, І ТАМУ ЁН АКАЗАЎСЯ НА БОГАНЕ...

А РАПТАМ ЯГО БАЧАННЕ БЫЛО РЭАЛЬНЫМ? НАШАЕ – БЫЛО!

КАЛІ БАЧАННЕ ДЭЙГЕНА ЛОКА – ПРАЎДА, АДБУДЗЕЦЦА НЕШТА ВЕЛЬМІ СУР'ЁЗНАЕ. ШТО ДА ВАС ТРОХ...











ВАДАСПАДЫ АКАР КЕША СІЛКУЮЦЬ РЭКІ, ЯКІЯ АБМЫВАЮЦЬ МАНАЛІТЫ-ВОЛАТЫ. ПЕЙЗАЖ УПРЫГОЖВАЮЦЬ СПАКОЙНЫЯ, АДАСОБЛЕНЫЯ ВЫСПЫ. ВЫДАТНАЕ МЕСЦА ДЛЯ МЕДЫТАЦЫІ.

МЕНАВІТА ТАМУ РАДЖЫВАРЫ І ПАСЯЛІЎСЯ ТУТ. ПАД ЧАС ВАЙНЫ З ТЫРАНКАЙ ЁН БЫЎ ГЕНЕРАЛАМ. ПАД ЯГО КІРАЎНІЦТВАМ ДЖЭДАІ АТРЫМАЛІ НЯМАЛА ПЕРАМОГ, А ЯГО СПАКОЙНАЯ МУДРАСЦЬ ДАПАМАГЛА ЗАХАВАЦЬ МНОСТВА ЖЫЦЦЯЎ.




ТАМУ КЕТУ ШУКАЕ ЯГО. АЛЕ ЗАРАЗ БЫЛЫ НАСТАЎНІК ЧЫМСІ ЗАНЕПАКОЕНЫ.

КЕТУ, ТЫ НЕ ПАРУШАЎ МАЙЮ АДЗІНОТУ З ЧАСОЎ ПРАБЛЕМЫ З ДЭЙГЕНАМ ЛОКАМ. ШТО НА ГЭТЫ РАЗ ПРЫМУСІЛА ЦЯБЕ ПРЫПЫНІЦЬ МАЮ МЕДЫТАЦЫЮ?

ХАЧУ ІЗНОЎ ПЫТАЦЬ ВАШАЙ РАДЫ, МАЙСТАР РАДЖЫВАРЫ. Я ВЕДАЮ, ВЫ АДЧУЛІ ЦЁМНУЮ ЭНЭРГІЮ, ЯКАЯ ПАПЯРЭДНІЧАЛА СІЛАВОМУ ЎРАГАНУ. УСЕ ДЖЭДАІ ЯЕ АДЧУЛІ.

ТАК. НЯБЁСЫ ІЗНОЎ ПРАЗРЫСТЫЯ, АЛЕ ЦЕМРА НЕ ЗНІКЛА. РАЎНАВАГА НЕЎСТОЙЛІВАЯ.

КАЖЫ. Я СЛУХАЮ.

ПАКУЛЬ АБОДВА ДЖЭДАЙІ ШПАЦЫРАВАЛІ, КЕТУ РАСКАЗВАЎ РАДЖЫВАРЫ ПРА ЧУЖЫ КАРАБЕЛЬ, ЯКІ ЗВАЛІЎСЯ, І ПРА ЗЭША – АЦАЛЕЛЫМ ПРЫШЭЛЬЦЫ З КЛІНКОМ З ЗАСТЫЛАЙ ЭНЕРГІІ.

ТАКІМ ЧЫНАМ... НЯГЛЕДЗЯЧЫ НА ВІДОВІШЧЫ ВАНДРОЎЦАЎ, РАДА АДПРАВІЛА ЗЭША НА БОГАН.

СКАЖЫ, КЕТУ: ТЫ ПРАІГНАРАВАЎ ІХ ВІДОВІШЧА ТАМУ, ШТО ЯНЫ НЕСПРАКТЫКАВАНЫЯ ВАНДРОЎЦЫ, АЛЬБО ТАМУ, ШТО ЯНО БЫЛО НЕ ТАБЕ?

ЦІ ВАРТА ЗВАНІЦЬ У ЗВАНЫ З-ЗА АДНАГО БАЧАННЯ, ГЕНЕРАЛ? ВІДОВІШЧА ДЭЙГЕНА ЛОКА БЫЛО КУДЫ БОЛЬШ ПАГРОЗЛІВЫМ, АЛЕ РАДА ЯГО ПРАІГНАРАВАЛА І НІЧОГА.

ЛІЧЫШ, СІЛА ШАПНЕ НА ВУШКА І ЎСЁ СТАНЕ АДРАЗУ ЗРАЗУМЕЛЫМ? ТАК НЕ БЫВАЕ. МЫ МОЖАМ УБАЧЫЦЬ ТОЛЬКІ ПРОБЛІСКІ – І ТО КАЛІ ПАШАНЦУЕ. ЗАЎВАЖЫЦЬ ПРАЎДУ МЫ ПАВІННЫ САМІ!

Я ВЕДАЮ ПРАЎДУ. ТОЕ, ШТО ЛОК БАЧЫЎ У ПРОРВЕ, ЗРАБІЛА ЯГО ЗВАР'ЯЦЕЛЫМ.

ТАДЫ ЯК ТЫ ПАТЛУМАЧЫШ КЛІНОК З АГНЮ, ЯКІ БЫЎ У АБОДВУХ ВІДОВІШЧАХ?

НЯЎЖО ТЫ НІЧОМУ Ў МЯНЕ НЕ НАВУЧЫЎСЯ? ПРАЙШЛО ДВАНАЦЦАЦЬ ГАДОЎ З ТЫХ ЧАСОЎ, ЯК МАЙСТАР ТЭЛААТ ЗАГІНУЎ НА ВАЙНЕ З ТЫРАНКАЙ І ТЫ ЗАНЯЎ ЯГО МЕСЦА, АЛЕ ТВАЯ МУДРАСЦЬ ЯШЧЭ ТАКАЯ НЯСПЕЛАЯ! КОЛЬКІ ЯШЧЭ ТЫ СПАДЗЯЕШСЯ ЗАСТАВАЦЦА ЦЕНЕМ МАЙСТРА ТЭЛААТА?

ПРЫ ЎСІХ ВАШЫХ РАЗВАЖАННЯХ ПРА РАЎНАВАГУ І МІРЫ, ВЫ ЎСЁ РОЎНА ЗА ВАЙНУ. ГЭТА НЕ ШЛЯХ ДЖЭДАЙІ.

ШЛЯХ ДЖЭДАЙІ – СЛУХАЦЬ СІЛУ! ЗРАЗУМЕЙ ГЭТА! КАЛІ ГЭТЫЯ ВІДОВІШЧЫ – ПРАЎДА, ОРДЭН ДЖЭДАЙІ ЗМЕНІЦЦА. УСЯМУ, ШТО МЫ ВЕДАЕМ, ПРЫЙДЗЕ ГАМОН!

ТЫ ПРЫЙШОЎ СПЫТАЦЬ МАЕЙ РАДЫ, МАЙСТАР КЕТУ? СКАЖЫ МАЙСТРАМ, ШТО ВІДОВІШЧА ДЭЙГЕНА ЛОКА – ГЭТА ПЕРАСЦЯРОГА, ДА ЯКОЙ ТРЭБА БЫЛО ПРЫСЛУХАЦЦА ЯШЧЭ СЕМ ГАДОЎ РАНЕЙ...

«ТОЕ, ШТО БАЧЫЛІ ВАНДРОЎЦЫ, МОЖА СТАЦЬ ПАЧАТКАМ ПРАДБАЧАНАГА ЛОКАМ. ДАВЕДАЙЦЕСЯ, ШТО ВЯДОМА ЗЭШУ. СЛЕДАМ ЗА АДНІМ ВАЯРОМ МОЖА З'ЯВІЦЦА ЦЭЛАЯ АРМІЯ».

ВОСЬ ТОЕ, ШТО Я ХАЦЕЎ ПАКАЗАЦЬ ТАБЕ. ЗЭШ.

ДВАНАЦЦАЦЬ ГАДОЎ НАЗАД НА ТАЙТОНЕ БЫЛА ВЯЛІКАЙ ВАЙНА, ЯКОЮ Я СПЫНІЎ. ПАД ЧАС РАШУЧАЙ БОЙКІ НЕКАЛЬКІ ВАРОЖЫХ ЗНІШЧАЛЬНІКАЎ РАЗБІЛІСЯ ТУТ, НА БОГАНЕ.

МАЕ БРАТЫ-ДЖЭДАЙІ ПРЫБРАЛІ ЗА САБОЙ ВЯЛІКУЮ ЧАСТКУ СМЕЦЦЯ, АЛЕ НЕШТА НЕЗАЎВАЖЫЛІ – АДЗІН ЗНІШЧАЛЬНІК З ЧЫКАГУ. ГЭТА З ІМІ МЫ ВАЯВАЛІ. ПРЫГАЖУН, ТАК? І АМАЛЬ ЦЭЛЫ.









«Паля вайны – вайны з тыранкай, якую я спыніў – са следапыту я стаў майстрам».

Дэйген, ты чуеш гуд у галаве? Здаецца, мы спусціліся дастаткова глыбока. Давай вернемся назад і вывучым тое, што даведаліся.

Да дна яшчэ далёка.

«Я ўпэўніў лепшага сябра – следапыта па імені Хоўк Ро – непаслухацца Забароны разам са мной».

Мы дамаўляліся, што будзем дзейнічаць паступова. Не рабі глупстваў.

Смялей! Я... Пачакай. Я нешта бачу. Нейкія сілуэты ў смузе!

Істота з чырвоным вокам вядзе армію...

Вогнены меч... Разбурэнне... Агонь... Смерць!

«Я глядзеў у бездань – у пастку хаоса. Здаецца, я закрычаў».







«Я РАСКАЗАЎ РАДЗЕ ПРА СВАЁ ВІДОВІШЧА. І ЯНЫ ВЫРАШЫЛІ, ШТО Я ЗВАР'ЯЦЕЎ».

«МЯНЕ ВЫГНАЛІ НА БОГАН ДА ТЫХ ЧАСОЎ, ПАКУЛЬЯ Я НЕ АД-МОЎЛЮСЯ АД СВАЙГО ВІДОВІШЧА – ПАКУЛЬ НЕ СКАЖУ ІМ ТОЕ, ШТО ЯНЫ ХОЧУЦЬ ПАЧУЦЬ».

ДУРНІ. Я ВЕДАЮ, ШТО БАЧЫЎ. ВЕДАЮ, У ЧЫМ МАЯ МІСІЯ. І НІ ЗА ШТО НЕ ЗМЯНЮ СВАЁ МЕРКАВАННЕ. А ВОСЬ ІМ ПРЫЙДЗЕЦЦА.


ЗДАЕЦЦА, ТЫ – ЧАСТКА МАЙГО ВІДОВІШЧА...


ПАДОБНЫ НА СІЛАВЫ МЕЧ.


ТАБЕ ЗНАЁМА ГЭТАЯ ЗБРОЯ?
ТАК. ГЭТА СІЛАВЫ МЕЧ – ЗБРОЯ СІЛАВЫХ ШНЫПАРОЎ.


МАЯ ЗБРОЯ, ЯКАЯ ЗАРАЗ У ДЖЭДАЙІ. БЕЗ ЯГО Я АДЧУВАЮ СЯБЕ... НЕПАЎНАВАЖНЫМ. ЛЕПШ БЫ ЯНЫ АДРЭЗАЛІ МНЕ РУКУ...


ТВАЯ ЗБРОЯ БЫЛА Ў ВІДОВІШЧЫ. МЕЧ З АГНЮ!
МНЕ ПАТРЭБНА ГЭТАЯ ЗБРОЯ! ТАДЫ ІМ ПРЫЙДЗЕЦЦА ПАВЕРЫЦЬ МНЕ! ТЫ МОЖАШ ЗРАБІЦЬ ЯШЧЭ АДЗІН?


УОЖНЫ ШНЫПАР СІЛЫ ПАВІНЕН СТВАРЫЦЬ СВОЙ МЕЧ. МНЕ ПАТРЭБНЫ ЯКАСНЫ КРЫШТАЛЬ, ЯКІ МОЖНА ПАЛЕПШЫЦЬ З ДАПАМОГАЙ АЛХІМІІ. ТРЭБА ЗРАБІЦЬ РУЧКУ.
ТЭАРЭТЫЧНА – ТАК, Я МАГУ ЗРАБІЦЬ ЯШЧЭ АДЗІН МЕЧ. АЛЕ НЕ ТУТ.
ПЛАНЕТА КРЭЎ-КЁР БАГАТАЯ КРЫШТАЛІЧНЫМІ ПАРОДАМІ, А НА НОКСЕ ЁСЦЬ ПРАМЫСЛОВЫЯ ГАМАРНІ. АЛЕ... НАМ ІХ НЕ ДАСЯГНУЦ!Ь

ЧАМУ? У ЦЯБЕ Ж ЁСЦЬ КАРАБЕЛЬ.
ІОННЫ РУХАВІК І РЭАКТАР ПРАЦУЮЦЬ, АЛЕ МАЙНОКІ ВЕЛІ ДАЎНО ВЫСМАКТАЛІ ЭНЭРГІЮ З СІЛАВАХ ВОЧАК. НАМ ЯГО НЕ ЗАВАСЦІ. Я СПРАБАВАЎ.


ВОСЬ ІМЯ БЕЗДАНІ!

ТЫ ВЕДАЕШ ШЛЯХ. САДЗІСЬ ЗА РУЛЬ – Я НЕ ЗМАГУ ВЕСЦІ КАРАБЕЛЬ.

СІЛАВЫ ШНЫПАР ПАГЛЫБЛЯЕЦЦА Ў СЯБЕ – У БЯЗДОННУЮ КРЫНІЦУ ГНЕВА, НЯНАВІСЦІ І СТРАХУ, ЯКІЯ ПЫЛАЮЦЬ У ІМ – І РАСПАЛЬВАЕ ІХ ДА КРАЮ.

АДЧУЎШЫ ВОПЛЕСК ЭНЭРГІІ, МАЙНОКІ СКВАПНА ЗЛЯТАЮЦЦА ДА КАРАБЛЯ.

ПАД ІХ СКУРАНЫМІ КРЫЛАМІ І ГНУТКІМІ ЦЕЛАМІ КОРПУС КАРАБЛЯ ПАЧЫНАЕ ЗІХАЦЕЦЬ.

РЭАКТАР ЗАПРАЦАВАЎ!


ЗЭШ!
СПЫНІСЯ!
ХОПІЦЬ! ТЫ ПЕРАНАГРУЗІШ СІЛАВЫЯ ВОЧКІ! ЯНЫ ВЫБУХНУЦЬ! ТЫ ЗАБ'ЕШ НАС АБОДВУХ!


Я ЗАГАДВАЮ! ЗАРАЗ ЖА!


НІКОЛІ НЕ СПЫНЯЙ МЯНЕ, КАЛІ Я ВЫКЛІКАЮ СІЛУ.
НАВАТ НЕ ДУМАЙ НЕДААЦЭНЬВАЦЬ МАЯ МОЦ.


ІДЗІ Ў КАБІНУ.


І Я НЫ ЛІЧАЦЬ ВАР'ЯТАМ МЯНЕ!


А ТЫ НЕБЯС-
ПЕЧНЫ, ХЛОПЕЦ!
ТВОЙ УЗРОВЕНЬ ВАЛО-
ДАННЯ СІЛАЙ... НАТХНЯЕ.
ТРЭБА Б ВЫКІНУЦЬ
ЦЯБЕ Ў КОСМАС.


«ТЫ МОЖАШ СТАЦЬ
СУР'ЁЗНАЙ ПЕРАШКОДАЙ
НА МАІМ ШЛЯХУ».


«АДНАК З ТАКОЙ МАГУТНАСЦЮ ТЫ
МОЖАШ СТАЦЬ ВЫДАТНЫМ САЮЗНІ-
КАМ – КАЛІ Я ЗМАГУ ЦЯБЕ КАНТРАЛЯ-
ВАЦЬ! ТАК, ТЫ БЫЎ ЧАСТКАЙ МАЙГО
ВІДОВІШЧА – СІМБАЛАМ БУДУЧЫНІ.
У ГЭТЫМ Я ЎПЭЎНЕНЫ».


«ЖЫВІ, СІЛАВЫ ШНЫПАР.
ПАКУЛЬ ШТО. ЗРАБІ МНЕ
СІЛАВЫ МЕЧ – А ТАМ
ПАБАЧЫМ».
далей:
ПАЛЯВАННЕ
ПАЧАЛОСЯ!